www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 35 (3878)

8 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# З Днём Перамогі!









**ЗАКУЛІССЕ**

## ...Па свістку

Учора Аляксандр Лукашэнка тэрмінова вылецеў у Маскву. Гэтаму папярэднічала начная тэлефонная размова расійскага і беларускага лідараў.

Да апошняга не было зразумела, што раптам здарылася паміж дзвюма краінамі і чаму спатрэбіўся гэты тэрміновы вылет у Маскву? Тым больш што расійскі і беларускі кіраўнікі бачыліся толькі тыдзень таму. Нічога на гэты конт не здолела паведаміць і прэзідэнцкая прэс-служба. Але ў другой палове дня сітуацыя пачала праясняцца.

Аказалася, што Уладзімір Пуцін запрасіў на тэрміновую сустрэчу не толькі Аляксандра Лукашэнку, але таксама лідараў Арменіі, Кыргызстана і Таджыкістана. Пагаварыць з вока на вока. А пасля гэтага — папрысутнічаць на трэніроўцы па ўпраўленні Узброенымі Сіламі Расійскай Федэрацыі.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што сярод гасцей раптоўнай сустрэчы і ўзорна-паказальнай трэніроўкі рсійскіх вайскоўцаў не аказалася аднаго з самых аўтарытэтных лідараў СНД — прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева. Хаця ён жывы, здаровы і ўдзельнічае ў перадсвяточных мерапрыемствах у сваёй краіне. А вось астатнія паляцелі ў Маскву, як кажуць, па свістку...

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**P.S.** *7 мая Аляксандр Лукашэнка сустрэўся ў Маскве з прэм'ер-міністрам Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым. "У нас няма невырашальных пытанняў, нам трэба толькі не спыняцца і рухацца наперад", — сказаў Лукашэнка і адзначыў, што Беларусь, Расія і Казахстан знаходзяцца напярэдадні важнай падзеі — падпісання дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза.*

*У сваю чаргу Мядзведзеў заявіў: "Нашы двухбаковыя адносіны выключна важныя, тым больш на фоне эканамічнай сітуацыі ў свеце і Еўропе".*

*Нефармальная сустрэча Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным адбудзецца сёння, 8 мая.*

**ЧУЛІ?**

## Клічуць карані

*Лаўрэат Нобелеўскай прэміі, славуты фізік **Жарэс Алфёраў** разам з жонкай Тамарай і дачкой Ірынай наведалі Лагойскі раён.*

Калі больш дакладна, сямейства Алфёравых асабліва цікавіла мясцовая вёска Крайск. Справа ў тым, што тут нарадзілася маці Жарэса Іванавіча, тут пазнаёміліся і ягоныя бацькі (хаця бацька Алфёрава родам з Чашніцкага раёна).

Дарэчы, дом маці Алфёрава не захаваўся. Землякі здолелі паказаць толькі месца, дзе ён знаходзіўся.

## Лепшы

Паводле вынікаў работы за мінулы год кіраўніку сялянскай фермерскай гаспадаркі "Сула" Стаўбцоўскага раёна **Уладзіміру Радзевічу** прысуджана ганаровае званне "Лепшы прадпрымальнік Мінскай вобласці". Прычым гэтым званнем ён узнагароджваецца чацвёрты год запар.

Фермеры Радзевічы (сваю гаспадарку Уладзімір Філіпавіч вядзе разам з сынам) займаюцца вырошчваннем бульбы. Прычым па самых перадавых тэхналогіях. СФГ "Сула" з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком нямецкай селекцыйнай кампаніі "Europlant", тры гады таму на базе гаспадаркі быў створаны аграцэнтр, і цяпер на яго землях спецыялісты кампаніі BASF выпрабоўваюць прэпараты для аховы раслін.

## Нарэшце

*Мы не аднойчы пісалі пра тое, што Баранавічы атрымалі Лядовы палац, але пазбавіліся магчымасці лячыць анкахворых непасрэдна ў сваім горадзе. Але нарэшце праблема вырашана.*

Новая гама-тэрапеўтычная прамянёвая ўстаноўка нарэшце запрацавала. Чакаць гэтага гараджанам прыйшлося каля двух гадоў: прыкладна столькі прайшло з таго моманту, як стары апарат канчаткова выйшаў са строю з-за зношанасці. Увесь гэты час сотні анкалагічных хворых з Баранавічаў вымушаны былі ездзіць на неабходнае лячэнне ў Брэст, Пінск альбо ў Мінск, чакаючы пры гэтым сваёй чаргі на працэдуру, тыднямі здымаючы дарагое жыллё. Бо без прамянёвай тэрапіі, паводле слоў урачоў, паўнавартаснае лячэнне раку проста немагчымае.

*Васіль БЫКАЎ*

# Вайна і перамога

*Эсэ*



Вайна абрынулася на краіну зьнянацку, яе страшныя праявы паўсталі перад людзьмі нечакана і, невядомыя ў ранейшым жыцьці, ашаламілі мільёны. У тым ліку і вайскоўцаў — кадравых камандзіраў ды начальнікаў. Памалу, аднак, людзі пачалі прызвычайвацца да жахлівай ваеннай рэчаіснасьці, неяк мірыцца з уласным бязрадасным лёсам. Стала ўжо зразумела, што вайна не на адзін год, што ваяваць прыйдзецца доўга і трэба прыстасоўвацца да яе экстрэмальных умоваў. Дзесьці на другім годзе вайны на фронце пачаў складвацца імправізаваны франтавы быт. На ўчастках, якія не вялі баявых дзеяньняў і стаялі ў абароне, у людзей паявілася слабая надзея выжыць — калі не да канца вайны, дык хоць бы да канца тыдня, да ранку. І людзі ўладкоўваліся — кожны на месцы, куды яго загнала вайна. Штабісты дружна і арганізавана абжывалі ацалелыя куткі ў спаленых тылавых вёсках, другім-трэцім радам мацавалі накаты камандных ды назіральных пунктаў; артылерысты парадкавалі зямлянкі, ладзілі печы — з жалезных бочак, малочных бітонаў, насьцілалі хвойнікам земляныя нары. Уваход завешваўся плашч-палаткай — гэтым унівэрсальным чырвонаармейскім сродкам, што засьцерагаў ад непагоды і сьцюжы. Немцы ўсю вайну карысталіся цёплымі коўдрамі, мы ж традыцыйна абыходзіліся шынялькам — у баі, на адпачынку, уначы. Пяхота ў завеяных сьнегам ці залітых дажджом траншэях, ратуючыся ад непагадзі, капала лухіячэйкі з палічкамі для гранат і патронаў ды абавязковай прыступкай, каб, як прагучыць сыгнал, выскачыць з акопу — у атаку.

Выскокваць у атаку даводзілася часта нават у працяглай, шматмесячной абароне. Вышэйшыя начальнікі памяталі і непарушна выконвалі жалезны загад Вярхоўнага: не даваць захопнікам спакою ні ўдзень, ні ўначы, няспынна біць яго і выматваць. Таму і білі, і выматвалі. Нават калі не хапала ні зброі, ні боепрыпасаў, калі на гарматы прыпадала па чвэрці боекамплекту і на кожны стрэл трэба было браць дазвол старэйшага камандзіра. У абароне рэгулярна праводзіліся звычайна крывавыя "разьведкі боем", штоночныя "пошукі разьведчыкаў", бясконцыя "паляпшэньні" абарончых пазыцыяў. Некаторыя палкі і дывізіі, падначаленыя надзвычай стараннным ці дужа патрыятычна настроеным камандзірам, на працягу многіх месяцаў атакавалі адныя й тыя ж вышыні, кладучы на іх схілах тысячы людзей, ды так і не дабіваючыся колькі-небудзь прыкметнага посьпеху. Людзей не шкадавалі. Усё на фронце было лімітаванае, усё дэфіцытнае і нармаванае, апроч людзей. З тылу, са шматлікіх пунктаў фармаваньня і навучаньня няспынным патокам ішло да фронту папаўненьне — масы схуднелых, зьнямоглых ад тылавой муштры людзей, якія трошкі навучаныя былі валодаць вінтоўкай, але не заўжды разумелі па-расейску. Усе яны папаўнялі парадзелыя ў няспынных баях часткі, каб заўтра ж пад шквальным нямецкім агнём падняцца ў атаку ды тут жа і ўпасьці долу. Камандзірам у стралковым ланцугу каштавала немалых высілкаў іх падняць, і нярэдка на полі бою можна было бачыць, як камандзір роты, бегаючы ўздоўж ланцуга, паднімае кожнага высьпяткам. Падняўшы аднаго, бяжыць да наступнага, і пакуль паднімае таго, задні зноў кладзецца долу — забіты ці зь перапуду. Бегаць так доўга пад агнём, вядома, ня мог і ротны, які таксама неўзабаве выбываў са строю. На некаторых участках фронту такіх бязглуздых, марных атак было мноства, яны ішлі чарадой; мяняліся байцы і камандзіры, але загад атакаваць заставаўся ў сіле. Калі дарэшты выбівалі палкі і батальёны, дывізію адводзілі ў тыл на перафармаваньне, а ўцалелых камандзіраў прадстаўлялі да ўзнагародаў: за няўхільнасьць волі ў выкананьні загаду — была такая ўзнагародная формула. Можна было толькі зьдзіўляцца, што ніхто не пярэчыў і не пратэставаў супраць такой яўнай бязглузьдзіцы. Але за тым, каб усе пакорліва маўчалі, пільна сачылі ня толькі вышэйшыя камандзіры, але і паліторганы, упаўнаважаныя асобых аддзелаў, вайсковыя трыбуналы, пракуратура. Загад камандзіра — закон для падначаленых, а на строгасьць начальніка ў арміі скардзіцца забаронена.

Вайна, аднак, вучыла. Не ранейшая, даваенная вайсковая навука, не вайсковыя акадэміі, тым больш, паскораныя курсы вайсковых вучэльняў, але асабісты вайсковы досьвед, які клаўся ў аснову баявога майстэрства камандзіраў. Пералом у вайне, калі пасьля першых разгромных месяцаў настала пэўная раўнавага сілаў, звычайна зьвязваюць з тым фактам, што кадравыя камандзіры канчаткова адцураліся ад свае вайсковае навукі, а мабілізаваныя з запасу, учарашнія інтэлігенты авалодалі ёю на практыцы. Вайсковыя дзеяньні пачалі набываць элемэнт разумнасьці. Вельмі хутка аказалася, што баявыя статуты, створаныя на падставе досьведу грамадзянскай вайны, мала адпавядаюць характару новай вайны і, у лепшым выпадку, бескарысныя, калі ня шкодныя ў сваім прымяненьні. На самой справе, чаго варта было толькі адно іх патрабаваньне аб месцы камандзіра ў баі — напярэдзе ланцуга, што заўжды прыводзіла да хуткай пагібелі камандзіра, пасьля чаго падразьдзяленьне, застаўшыся без галавы, хутка страчвала якое-небудзь баявое значэньне. Паэшалённая будова пяхоты пры наступленьні заўжды выклікала занадта вялікія страты, асабліва ад мінамётнага агню ворага. Зразумеўшы тыя і шмат якія іншыя недарэчнасьці, Сталін вымушаны быў пайсьці на перапрацоўку статутаў, і ўжо ў ходзе вайны паявіліся новыя статуты пяхоты — частка I і частка II. У той час, як у войску жорстка караўся нават намёк на перавагу нямецкай тактыкі або нямецкае зброі, дзесьці наверсе, у генштабе, гэтая перавага ўсё ж улічвалася, і зь яе рабілі пэўныя высновы. Са згоды Вярхоўнага тое патроху ўкаранялася ў войску.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

## Сцяна... на дарозе

У Лунінецкім раёне п'яны трактарыст вынес сцяну магазіна.

Інцыдэнт адбыўся ў вёсцы Флёрава ў сярэдзіне працоўнага дня.

Як паведамляе ДАІ, 25-гадовы трактарыст мясцовага СПК "наехаў" на магазін. У выніку палова сцяны будынка проста абрынулася. Людзі, дзякуй Богу, не пацярпелі.

## Прэмія за... выдатніка

У ААТ "Шчучынскі завод "Аўтапровад" прынята рашэнне матэрыяльна заахвочваць сваіх работнікаў, дзеці якіх добра вучацца. Напрыканцы навучальнага года прадпрыемства будзе выплачваць бацькам "узорных" школьнікаў дапамогу ў памеры васьмі базавых велічынь.

Малайцы! Вельмі добрая ініцыятыва!

## 9 мая зменіцца работа метро

З 6.30 і да заканчэння ўрачыстасцяў уваход і выхад грамадзян з метро на станцыі "Плошча Перамогі" будзе ажыццяўляцца з боку вуліцы Казлова. Непасрэдна падчас цырымоніі ўскладання вянкоў да манумента Перамогі пасадка і высадка пасажыраў на гэтай станцыі ажыццяўляцца не будзе да заканчэння мерапрыемстваў.

Цягнікі на станцыі "Кастрычніцкая" будуць функцыянаваць з пасадкай і высадкай пасажыраў, але будуць абмежаваны выхады і ўваходы да Цэнтральнага дома афіцэраў і Палаца культуры прафсаюзаў.

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

# Хакей ідзе!

*Заўтра ў Мінску адкрываецца чэмпіянат свету па хакеі.*




...Акрэдытацыйны цэнтр на "Мінск-Арэне" за некалькі дзён да пачатку першынства быў амаль пусты. Госці не спяшаліся ў беларускую сталіцу, а тыя, хто прыехаў, дзівіліся на цуды беларускай эканомікі.

Некаторыя замежныя журналісты не зразумелі, напрыклад, навошта да арэны прыцягнулі 28-метровы трамвай...

*"Гэта электрычка гарадскіх ліній, якая будзе курсіраваць паміж "Мінск-Арэнай" і "Чыжоўка-Арэнай",* — выказаў версію адзін калега, пасля чаго яго таварышы дружна пачалі шукаць рэйкі і месца пасадкі. Апошнія так і не знайшлі, але прадстаўнікам СМІ патлумачылі, што гэта беларускі трамвай, які вырашылі паказаць гасцям. Навошта падчас хакея трамвай? Гэтага многія калегі так і не зразумелі. Хоць я лічу, што гэта таксама рэклама краіны.

Дарэчы, гарадскія ўлады, напэўна, вырашылі вылізаць Мінск да бляску. У месцах, дзе будуць "тусавацца" госці, асфальт мыюць ледзь не шампунем, стрыгуць траву, падфарбоўваюць лаўкі і агароджы. *(А чаму б не кожны дзень так рабіць? Ці паказуха будзе толькі на час першынства? —* **Аўт.**) Ля Студэнцкай вёскі на праспекце Дзяржынскага, дзе будзе жыць асноўная частка "эканомбалельшчыкаў" (10—30 еўра ў суткі), зрабілі цэлую піўную зону, а новабудоўлі завесілі маляўнічымі плакатамі.

Дарэчы, паводле падлікаў тэлеканала АНТ, падчас чэмпіянату свету дзяржава плануе зарабіць на замежных турыстах пад 70 мільёнаў еўра — маўляў, кожны госць патраціць у Беларусі як мінімум 3500 еўра.

Але гэта ў нас так лічаць, а ў балельшчыкаў свая арыфметыка. Сяргей Карпіцкі — фанат з Піцера — распавёў "Народнай Волі", што ён збіраецца ўкласціся ў 40 тысяч расійскіх рублёў (прыкладна 1150 долараў).

*"15 тысяч — на жыллё, а астатняе — на "паесці, півасік і пабалдзець",* — бюджэт у Сяргея распісаны коратка і зразумела.

Мой суразмоўца не цікавіцца палітыкай, але *"патрыёт радзімы",* яму падабаецца беларуская сталіца, таму што *"чыста і можна танна адцягнуцца",* і беларускія прастытуткі, якія "*на парадак вышэй піцерскай ліміты".* Сярожа заклапочаны, *"ці не паднялі цэннікі беларускія жрыцы кахання"* падчас чэмпіянату, але сам сябе і супакойвае: *"Калі што, Танюха прыме. Я, калі з піцерскім СКА ў Мінск прыязджаў, з ёй пазнаёміўся".*

Дарэчы, расіяне хацелі правесці ў Мінску 9 мая шэсце, але прадстаўнікі беларускага МУС далі зразумець: за несанкцыянаванае мерапрыемства можна і "па шайбе" атрымаць. "Балдзейце", маўляў, з "півасікам" у спецыяльных зонах.

Тым часам балельшчыкі абмяркоўваюць не толькі "закулісныя моманты хакея", але і непасрэдна першынство, якое, мяркуючы па ўсім, будзе зусім слабым. Пад рознымі нагодамі адмовіліся ехаць у Мінск 19 хакеістаў зборнай Швейцарыі, 13 — з каманды Чэхіі, не ўбачым шмат моцных ігракоў у зборных Швецыі, Расіі, Фінляндыі... Пасля Алімпіяды многім ігракам гэты чэмпіянат, як кажуць, да лямпачкі. І пры такім раскладзе шанцы беларусаў толькі павялічваюцца. А хочуць яны ні многа ні мала — як мінімум патрапіць у васьмёрку мацнейшых.

Заўтра беларускія хакеісты пачнуць турнір матчам з алімпійскімі чэмпіёнамі — камандай ЗША...

**Алесь СІВЫ.**

ВІНШУЕМ!

## Уладзімір НАВІЦКІ: «Мне 30 — не больш!..»

*Сёння вядомы беларускі спартыўны каментатар **Уладзімір НАВІЦКІ** адзначае 60-гадовы юбілей. Уладзімір Мікалаевіч распавёў "Народнай Волі", як ён пачаў вывучаць мову, хто яго галоўны крытык і ці будзе адзначаць юбілей.*



— Шчыра кажучы, крыху сумна, што ўжо так шмат гадкоў, — *прызнаецца юбіляр.* — У мяне адчуванне, што гады праляцелі неверагодна хутка. Але радуе, што па стане душы, па вялізным жаданні займацца любімай справай я знаходжуся ў 1981 годзе, калі прыйшоў працаваць на тэлебачанне. Паверце, гэта не проста прыгожыя словы. Па тым, што ўнутры мяне, я і блізка не падышоў да 60 гадоў. Мне 30 — не больш!..

**— Уладзімір Мікалаевіч, ці памятаеце, калі ў эфіры вы ўпершыню загаварылі на беларускай мове?**

— Самы першы рэпартаж я правёў у жніўні 1981 года, калі мінскае "Дынама" прымала "Пахтакор" з Ташкента, а вось дэбют на мове неяк у галаве не зафіксаваўся. Хоць сёння я ганаруся, што шмат гадоў вёў трансляцыі па розных відах спорту на матчынай мове, распрацоўваў на мове хакейную тэрміналогію.

**— А ці здараліся на гэтым шляху хібы?**

— Не без гэтага. Дарэчы, я пачаў вывучаць мову, калі мне было ўжо 27 гадоў. У савецкія часы быў такі парадокс, што дзеці вайскоўцаў (а мой бацька такім і быў) вызваляліся ад вывучэння беларускай мовы. У тых ваенных гарадках, дзе мы жылі, у школах наогул не было такога прадмета, як беларуская мова, хоць беларуская літаратура ў праграме прысутнічала. Калі ж я прыйшоў працаваць на тэлебачанне, якое тады ўзначальваў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, сур'ёзна ўзяўся за вывучэнне мовы. Тады было ўсім зразумела: калі хочаш заставацца на рабоце, трэба авалодаць мовай. Яшчэ раз падкрэслю — пачынаў я ў 27 гадоў з нуля. Тады ж, дарэчы, паступіў і на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ. Да слова, у вывучэнні мовы мне шмат у чым дапамаглі выкладчык Мікола Рыгоравіч Каваленка і Марыя Іванаўна Аўхімовіч, якая працавала ў той час стыль-рэдактарам на Беларускім радыё. Ды і з жонкай мы размаўлялі выключна на роднай мове.

**— Хто ваш галоўны крытык? Можа быць, таксама жонка?**

— Першыя гадоў дзесяць, калі пачаў працаваць каментатарам, жонка імкнулася большую частку маіх рэпартажаў пагляддзець і паслухаць. Нярэдка давала слушныя, карысныя парады. Але зараз у яе няма на гэта ні часу, ні, напэўна, жадання. Праўда, калі пачуе нейкія хібы, то крытыкуе па поўнай праграме. Што да галоўных крытыкаў, то мне складана камусьці аддаць прыярытэт.

**— Уладзімір Мікалаевіч, як адсвяткуеце юбілей?**

— Я не вялікі аматар банкетаў, але на гэты раз сябры мне настойліва раяць адсвяткаваць дату. Але паколькі ўжо 9 мая трэба працаваць на чэмпіянаце свету па хакеі, то патлумачыў усім: "Не час, таварышы!" А вось у паўзе паміж хакейным і футбольным чэмпіянатамі абавязкова збяру блізкіх і сяброў. У дзень жа юбілею збяромся вузкім сямейным колам.

**— Яшчэ раз прыміце нашы віншаванні. І кажам добра вам вядомыя словы: "Бывайце здаровы, жывіце багата!"**

**Алесь СІВЫ.**

СТАТЫСТЫКА

## *Заробкі ў 500 долараў амаль для паловы работнікаў недасягальныя*

Нацстат апублікаваў дадзеныя па заработнай плаце ў краіне за сакавік. З іх вынікае, што амаль палова беларусаў не атрымала тых самых 500 долараў, пра якія нашы ўлады кажуць ужо не адзін год.

Здзіўляцца, напэўна, няма чаму. Заробкі амаль замарожаны, а курс долара расце кожны дзень. Сакавіцкая зарплата была налічана супрацоўнікам беларускіх арганізацый у красавіку, а з сярэдзіны красавіка долар каштуе ўжо 10 тысяч рублёў, некаторыя банкі прадаюць яго і даражэй.

Што ж гаворыць афіцыйная статыстыка?

У Беларусі больш як паўтара мільёна работнікаў (48,4% ад сярэдняспісачнай колькасці супрацоўнікаў арганізацый) атрымалі ў сакавіку зарплату, якая была ніжэйшая за 5 млн рублёў.

**5 і больш мільёнаў** рублёў атрымалі 1,68 млн работнікаў,
**ад 4 да 5 млн рублёў** — 618 тыс. работнікаў,
**ад 3 да 4 млн рублёў** — 839,4 тыс. работнікаў,
**ад 2 да 3 млн рублёў** — 112,9 тыс. чалавек,
**ад 1 да 2 млн рублёў** — 6,9 тыс. супрацоўнікаў арганізацый.

Але трэба адзначыць, што ўсе вобласці Беларусі далі справаздачу, з якой вынікае, што сярэдні заробак у 500 долараў быў забяспечаны. Праўда, гэта тычыцца налічаных заробкаў.

Менш за ўсіх за сваю працу атрымлівалі жыхары Брэсцкай вобласці, самыя высокія заробкі традыцыйна назіраліся ў Мінску.

Так, у сакавіку налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў склала:
**у Брэсцкай вобласці** — 5.005.378 рублёў,
**у Віцебскай вобласці** — 5.035.622,
**у Гомельскай вобласці** — 5.369.867,
**у Гродзенскай вобласці** — 5.074.671,
**у Мінскай вобласці** — 5.545.002,
**у Магілёўскай вобласці** — 5.107.590,
**у г.Мінску** — 7.835.039 рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СМЕХАТУРА!

## Банцік ад Гайдукевіча

*Амаль з усіх краін СНД (акрамя Расіі і Арменіі) напярэдадні Дня Перамогі прыходзілі звесткі пра неафіцыйную забарону выкарыстання так званых "георгіеўскіх стужак". У Беларусі — тая ж сітуацыя: афіцыйныя праўладныя арганізацыі "Белая Русь" і БРСМ ад выкарыстання "каларадскіх стужак" адракліся.*

І ўсё ж такі знайшлася ў краіне адна партыя — Ліберальна-дэмакратычная, якая адназначна завіла: "Георгіеўскія стужкі" — сімвал перамогі над фашызмам!"

Ці так гэта насамрэч?

Гісторыя з'яўлення георгіеўскай стужкі пачынаецца з 1769 года, калі Кацярына II заснавала ордэн "Святога Георгія". За баявы подзвіг яго ўдастойваліся не толькі генералы, але і простыя салдаты. Праўда, першы ордэн Кацярына ўручыла самой сабе. Потым у гонар стагоддзя ўзнагароды сябе ёю ўзнагародзіў імператар Аляксандр. Так што з расійскімі кіраўнікамі ён мае анекдатычную асацыяцыю.

Пасля рэвалюцыі сам ордэн, як і ўсе іншыя царскія ўзнагароды, бальшавікі скасавалі. Стужка вярнулася толькі ў часы вайны па ініцыятыве сумна вядомых здраднікаў Уласава і Шкуро, ёю пазначалі сябе байцы арміі Уласава. Хаця афіцыйная прапаганда ўспамінаць пра гэта не лічыць патрэбным, акцэнтуючы ўвагу, што лента чорна-аранжавага колеру ўпрыгожвала ордэн Славы, а пасля вайны — медаль "За перамогу над Германіяй".

Пра "георгіеўскія стужкі" ўспомнілі ў Расіі ў 2005 годзе, чамусьці назваўшы сімвалам перамогі, хаця абсалютна ясна, што сімвал у перамогі быў адзін — чырвоны сцяг над Рэйхстагам. І ён сімвалізаваў перамогу над фашысцкай Германіяй не толькі расіян, але і ўсіх савецкіх людзей — украінцаў, беларусаў, яўрэяў, кіргізаў і так далей, і так далей... Але пуцінскай Расіі спатрэбіўся свой сімвал перамогі — ім і стала чорна-аранжавая стужка.

Падзеі ва Украіне, калі невядомыя ўзброеныя людзі без апазнавальных знакаў захоплівалі закладнікаў, нападалі на вайскоўцаў і міліцыянераў, а іх кіраўнікі прапаноўвалі тым мясцовым жыхарам, якія сталі на бок сепаратыстаў, насіць на правым плячы чорна-аранжавую стужку, дадалі гэтаму знаку новы страшны сэнс. Таму і абвясцілі думаючыя людзі гэтым стужкам "байкот".

Але Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі вядзе сваю палітыку (хоць якая гэта свая, хутчэй — Жырыноўскага). Учора ў офісе партыі чакалі жадаючых атрымаць чорна-аранжавую стужку. Цягам двух гадзін, пакуль я знаходзілася ў офісе, жадаючых, не аказалася. Тым не менш сакратар офіса Наталля Галалобава прадэманстравала бабіну ў некалькі метраў стужкі і ўжо падрыхтаваныя кавалкі для раздачы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

КАКОВ ПРИВЕТ — ТАКОВ ОТВЕТ

## Несъедобная каша

### *Только не понятно, кто ее сварил — Руслан Игнатищев или редакция газеты"Рэспубліка"?*

Заангажированность публикации во вчерашнем номере провластной газеты "Рэспубліка" под заголовком "Стыдитесь!" видна уже с первого предложения. Читаем: *"Недавно в газете "Народная воля" была опубликована статья-провокация под названием "Белорус с гордостью называет себя бандеровцем".* Возьмите все не только недавние номера "Народной Воли", но и даже годичной давности — "статья-провокация" под таким заголовком вам не встретится на страницах издания. 14 марта в тематической полосе "Пошта" напечатано **"ПИСЬМО МАМЕ В БЕЛАРУСЬ, или Почему белорус с гордостью называет себя бандеровцем".** Под ним подпись — Игорь Тышкевич из Киева. Заметьте, в какой форме подан материал в "Народной Воле" и в какой — в "Рэспубліцы"? Если и говорить о какой-то провокации, то она видна невооруженным глазом уже в первом предложении публикации провластной газеты "Рэспубліка". Согласитесь, в самом заголовке акцент смещен в определенную сторону, еще до знакомства читателей со смыслом всего материала нашего соотечественника, проживающего в Украине. А ведь он в своем "Письме..." приводит немало конкретных фактов, примеров, обращаясь к самому близкому человеку — маме. Если у господина Р.Игнатищева или редакции "Рэспублікі" есть на сей счет серьезные возражения, опровержения или уточнения — почему не изложить это в печатной форме, почему детально не подискутировать с автором? Так нет же, ни слова о сути публикации в "Народной Воле". Зато выхватывается лишь ее подзаголовок, который продиктован последними двумя абзацами "Письма...". Вот какими строками оно заканчивается:

*"Мои родные с Урала, особенно двоюродный брат и сестры, Сережа, Юля, Светочка, Оля: я с удовольствием приму вас тут в гости. Покажу Украину, погуляем по Киеву, Львову, Виннице или Тернополю. Я действительно соскучился и был бы счастлив увидеться. Но, если сюда придут ваши знакомые с оружием бороться с "бандеровцами"...*

*Знайте, с сегодняшнего дня я с гордостью называю себя бандеровцем!"*

Обращаем внимание: у автора о "бандеровской идеологии" — ни слова. В публикации "Рэспублікі" — только об этом. Хотя ни Игнатищев, ни редакция этой газеты, чувствуется, толком так и не знают, кто был на самом деле Степан Бандера. Если бы знали, то хоть мельком бы сказали, что этого человека бросали в тюрьму и большевики, и поляки, и немцы... А что касается настоящих предателей в годы войны, то их, к сожалению, немало было и у нас.

Вот уж поистине есть чего стыдиться Р.Игнатищеву и газете "Рэспубліка"! Не понятно, это авторская публикация или редакционная. Какая-то каша! Вначале впечатление такое, будто пересказывается содержание статьи, присланной в газету Р.Игнатищевым, но в конце публикации конкретная подпись — **"Руслан Игнатищев".**

Так кто же сварил такую кашу? Впрочем, имеет ли это какое-то значение? Важно, что эта каша несъедобная. Чисто пропагандистская.

**Редакция газеты "Народная Воля".**

ВЗГЛЯД ИЗ КИЕВА

## Кто ответит за беспорядки в Одессе?

### *Споры о трагической гибели десятков людей в Одессе 2 мая не утихают и сегодня. Кто виноват в этой трагедии?*

Начато официальное расследование, и.о. министра внутренних дел Украины **Арсен Аваков** заявил, что к расследованию событий в Одессе привлечены иностранные эксперты.

Что же там произошло 2 мая? После просмотра десятков фото- и видеоматериалов картина вырисовывается такая.

В городе пред футбольным матчем планировалось совместное шествие до стадиона болельщиков одесского "Черноморца" и харьковского "Металлиста" — сторонников единой Украины. На Соборной площади, на месте сбора марша, футбольных фанатов встретила хорошо вооруженная толпа с арматурой, битами, топорами, молотками. Как оказалось потом, у некоторых было огнестрельное оружие, включая нарезное: пистолеты и автоматы. Одесская милиция никоим образом им не препятствовала, а, наоборот, находилась все время рядом, сопровождая при движении. Помимо георгиевских ленточек у особо ретивых был опознавательный знак — красный скотч на рукаве, аналогичный знак был и у значительной части милиционеров. Есть данные, что таким образом пророссийские боевики и их союзники среди милиционеров должны были идентифицировать друг друга как своих.

Под прикрытием бездеятельной милиции пророссийские боевики начали бойню, напав на сторонников единой Украины. В свою очередь проукраинские активисты не отступили, а начали защищаться и контратаковать. В ход пошла брусчатка. В ответ был открыт огонь на поражение из огнестрельного оружия. Огонь велся прямо из-за спин милиционеров, и те не то что не препятствовали этому, а, наоборот, защищали и прикрывали стрелков. Погибло не менее пяти проукраинских активистов, десятки были ранены. Но, как и на Майдане, защитники единой Украины оказались сильны духом и не испугались огня, смерть товарищей их только разъярила. Пророссийские боевики стали отступать к своей базе в Доме профсоюзов на Куликовом поле. Стрелков милиция начала эвакуировать. Один из боевиков, стрелявший из автомата и убивший двух человек, которого позже блогеры идентифицировали как криминального авторитета по кличке "Боцман", уехал в машине "скорой помощи" вместе с одним из замначальников облуправления милиции полковником Дмитрием Фучеджи.

Пророссийские боевики забаррикадировались в здании профсоюзов. Часть из них поднялась на крышу и открыла огонь по подошедшим проукраинским активистам. С крыши помимо стрельбы начали бросать "коктейли Молотова", в ответ проукраинские активисты подожгли входную дверь. Но еще до этого момента произошло пока что-то необъяснимое: огонь вспыхнул на третьем этаже, это при том, что окна были целы и добросить туда "коктейль Молотова" физически невозможно.

На всех фото и видео видно: проукраинские активисты бросились на помощь тем, кто оказался в горящем здании. Соорудили леса и помогали спускаться оппонентам. А милиции, как всегда, рядом не оказалось, пожарные около часа не приезжали. Был откровенный саботаж со стороны специальных служб на протяжении всех произошедших инцидентов. Они не только не препятствовали нарушителям порядка, а даже убегали от людей, просивших оказать содействие в прекращении бойни, когда появились первые убитые.

Итог этой бойни страшный: более сорока человек погибли. Было задержано около двухсот человек, многие оказались гражданами России и Приднестровья. Правительство взяло под контроль расследование трагедии. Сменили руководителя областной милиции. А 4 мая в городе снова начались массовые беспорядки. Оставшиеся в руководстве милицейские чиновники вопреки приказу из Киева вывезти арестованных боевиков в другие области многих из них просто отпустили. Сейчас появилась информация, что 4 мая вместе с задержанными после пожара в Доме профсоюзов были под шумок выпущены криминальные авторитеты. (Об этом заявил новый руководитель областной милиции генерал-майор **Иван Катеринчук.**) Пророссийские штурмовики готовились взять здание милиции, чтобы завладеть оружием. Был объявлен экстренный сбор проукраинских сил. И боевики снова вынуждены были ретироваться.

Сейчас идет расследование трагедии под контролем СБУ и прокуратуры. Приглашены к участию в расследовании иностранные специалисты. Публичной информации пока мало, но уже очевидно, что трагедия была заранее спланирована и тщательно готовилась. Все милицейское руководство области и города отстранено от выполнения обязанностей. Арестован заместитель начальника областного управления милиции полковник **Дмитрий Фучеджи** (кстати, его брат, оказывается, был министром внутренних дел непризнанной республики Приднестровье.) Вот такие интересные связи вскрываются...

В Одесской области назначен новый губернатор **Игорь Палица**, бизнес-партнер губернатора Днепропетровской области Коломойского, активно выступающего за единую Украину. Есть надежда, что ситуация в Одессе стабилизируется. Депутат Верховной Рады **Владимир Куренной** 6 мая рассказал *"Сегодня в ходе закрытого заседания глава СБУ Валентин Наливайченко сообщил, что в бывшем Одесском обкоме КПСС на Куликовом поле найдены емкости с особо опасным химическим веществом. Сейчас происходит химическая экспертиза. Более того: СБУ известно имя человека, который привез в Одессу и готовил эту гадость в облсовпрофе. После проведения всех экспертиз и формальностей общественность получит информацию об этом, и, возможно, будет понятна природа страшной трагедии на Куликовом поле".*

Вчера появилось и заявление и.о. Генерального прокурора Украины **Олега Махницкого**: *"Уже сегодня мы можем говорить, что это была спланированная акция... Мы можем говорить сегодня не только о бездеятельности (милиции), но и соучастии. Уже заранее был определенный умысел. Была договоренность между сотрудниками милиции и бандитами".*

Российское телевидение пытается события в Одессе преподнести так, будто стрельба по футбольным фанатам из-за спин милиции со стороны пророссийских активистов — это провокация официального Киева. Но возникает вполне логичный вопрос: нужна ли нынешней украинской власти эта бойня в Одессе, да еще в то время, когда антитеррористическая акция на юго-востоке Украины вступила в активную фазу в Славянске и Краматорске? Ведь то, что случилось в Одессе, — явный удар по имиджу Турчинова и Яценюка.

К тому же Одесса в последнее время жила спокойно, горожане утратили интерес к пророссийским собраниям на Куликовом поле, которые были очень малочисленны. Одесситы готовились к президентским выборам. Такие настроения радовали Киев, но, видимо, мозолили глаза тем, кто устраивает беспорядки на юго-востоке Украины.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент "Народной Воли" в Украине.**

ЗА РУЛЕМ

## Пересядут ли белорусы на «Джили»?

*На днях А.Лукашенко, прокатившись за рулем китайского автомобиля Geely белорусской сборки, заявил: мол, наконец-то у нас появился свой "народный автомобиль".*

*В свое время славу недорогого, но качественного автомобиля в Беларуси пытался снискать иранский "Саманд", однако проект провалился.*

*Есть ли шансы у "Джили" стать действительно народным автомобилем? На этот вопрос "Народной Воле" ответил заместитель председателя РОО "Белорусская научно-промышленная ассоциация", председатель совета директоров ООО "Китайские автомобили" **Сергей Варивода.***

— Возможно, автомобиль "Джили" рано или поздно получит всенародную поддержку, — *говорит Сергей Михайлович.* — А пока... Трудно сказать, поживем — увидим. Если у людей будет желание приобретать этот автомобиль и отзывы о нем будут позитивными, тогда он действительно станет народным.

**— Сегодня белорусы часто выбирают китайские автомобили?**

— Мы живем в королевстве кривых зеркал автомобильного рынка Таможенного союза. И если бы не было протекционизма, связанного с тарифной защитой рынка и нетарифными мерами регулирования, не было бы утилизационного сбора, квотирования, рекомендаций приобретать те или иные автомобили, дифференциальной поправки при проведении госзакупок, то картина на рынке была бы совершенно иная. Например, в Украине доля китайских автомобильных брендов на рынке новых легковых автомобилей составляет около 10 процентов, в России — 4,5, а в Беларуси по итогам прошлого года — чуть более 3 процентов, и то благодаря запуску собственного проекта. Поэтому прежде чем отвечать на вопрос, готовы ли белорусы своим кошельком поддержать китайский автопром, было бы неплохо посмотреть, сколько в реальной цене того или иного авто заложено налогов, которые носят характер протекционистского барьера. Так, вступление Беларуси в Таможенный союз с 1 января 2010 года существенно ударило по продажам и развитию китайских брендов в Беларуси.

**— Весьма распространен миф о невысоком качестве китайских авто...**

— К сожалению, белорусский потребитель зачастую живет в мире иллюзий и представлений, иногда навеянных и российскими средствами массовой информации. Не секрет, что китайцы сегодня являются серьезным конкурентом для российских автопроизводителей. Отсюда и несколько тенденциозная подача информации о китайских автомобилях.

Я видел китайский автомобиль на выставке в Москве в 2001 году. И поверьте: сегодняшний уровень китайского автомобиля и уровень десятилетней давности — это небо и земля. Я не переоцениваю китайцев, а стараюсь рассуждать объективно. И могу авторитетно заявить: по качеству автомобилей китайцы сегодня близки к корейцам.

**— А корейских машин на белорусских дорогах сейчас очень много. Знаю, что в салоне даже очереди выстраивались за кроссоверами "КИА"...**

— Опять же, давайте посмотрим на этот расклад: так как Китай единственный серьезный конкурент российского автопрома, то именно китайцам и не дают развиваться на пространстве Таможенного союза. В итоге машины, которые, как вы говорите, хорошо покупают, — Kia Rio, Hyundai Accent, Volkswagen Polo седан, Renault Sandero Stepway, Renault Duster и так далее — это все автомобили, ввозимые в Республику Беларусь без уплаты таможенных пошлин. А большинство китайских автомобилей ввозятся с уплатой пошлин. Поэтому я и говорю: если бы у нас в равных условиях были корейцы и китайцы, то исход борьбы за рынок был бы совсем не таким, как сегодня.

Не буду говорить сейчас о *Geely* — здесь все же присутствует серьезный элемент протекционизма, и только очистив статистику продаж от влияния сверху, можно будет увидеть реальный спрос на эту модель. Но есть другой хороший пример — китайский бренд "Chery". Это единственная модель китайского автомобиля, которая собирается в зоне СНГ и беспошлинно ввозится в Беларусь. Так вот "Чери" показала очень хороший результат продаж, опередив даже Geely.

**— Цены на "Джили" не сильно отличаются от того же усиленно рекламируемого сегодня Renault Duster — разница около 1000 долларов с хвостиком. И мне почему-то кажется, что многие выберут именно "Рено"...**

— Такая популярность объясняется лишь значком бренда на капоте. Я не имею корыстных интересов ни в отношении "Дастера", ни в отношении "Джили", но как покупатель и водитель со стажем своим рублем проголосовал бы в пользу "Джили". На мой взгляд, эта машина поинтереснее и по экстерьеру, и по интерьеру, и по некоторым ходовым качествам. И в цене все-таки разница есть.

**— За последнее время предпочтения белорусов в плане авто как-то изменились?**

— У нас происходят серьезные изменения на автомобильном рынке. Хочу напомнить, что в 2008 году самой популярной маркой на автомобильном рынке был "Фольксваген Туарег" — если мне память не изменяет, было продано 852 машины. Дорогущий внедорожник! А сегодня в почете дешевые, или, как говорят, бюджетные, автомобили. Это ломка психологии потребительских предпочтений. Люди стали более рачительными, считают деньги, и, конечно, в этом смысле "Джили" имеет неплохие шансы на успех. Я предполагал, что по итогам 2014 года им удастся отвоевать 5 процентов рынка новых легковых автомобилей, но, учитывая высокой уровень протекционизма и ту поддержку, которую в том числе на днях оказал им и А.Лукашенко, думаю, они смогут добиться большего. И основа успеха — прежде всего низкая цена. Цены на *Geely* в базовых версиях сегодня стартуют от 10.590 до 18.990 условных единиц. При этом стоит заметить, что для китайцев характерен очень высокий уровень комплектации даже в базовых версиях...

**Марина КОКТЫШ.**

ДОСЛОВНО

**"Многие боятся, что 9 мая может произойти что-то трагическое. После истории с Крымом мы вступили в ситуацию, когда случиться может все что угодно. Мы открыли дорогу самой жестокой энтропии, которая только может быть при технических возможностях нашего времени и исключительной глупости правителей почти всех стран. Взаимная агрессивность напоминает средневековую. Любое государство вправе устанавливать определенные, в том числе не очень нравящиеся другим людям, порядки. Россия предполагает, что у нее есть армия, которая эти порядки будет защищать. Существенная ошибка. Я видел эту армию в Чечне, в деле. Да, есть храбрые люди, но армии нет. А мы ведем себя так нагло и самодовольно, как будто она у нас есть".**

**Александр НЕВЗОРОВ, российский тележурналист.**

ФАКТЫ

## *Швейцария заморозила почти 200 млн долларов, принадлежащих Януковичу и его окружению*

Швейцарские власти заблокировали сотни миллионов долларов на банковских счетах свергнутого президента Украины Виктора Януковича и близких к нему людей. Общая сумма арестованных средств составила 170 миллионов швейцарских франков (больше 193 миллионов долларов), передает Reuters со ссылкой на федерального прокурора Швейцарии.

В настоящий момент следователи возбудили пять уголовных дел в отношении Януковича и его приближенных, подозреваемых в отмывании денег.

Всего же Виктор Янукович украл у украинцев более 100 миллиардов долларов, сообщило УНИАН со ссылкой на Генпрокуратуру Украины.

В НОМЕР!

## *Путин призвал сепаратистов перенести референдум*

Москва призывает сторонников федерализации на юго-востоке Украины перенести намеченный на 11 мая референдум о самоопределении регионов, заявил президент России Владимир Путин.

Об этом сообщили вчера РИА "Новости".

*"Призываем представителей юго-востока Украины, сторонников федерализации страны перенести намеченный на 11 мая референдум. С тем чтобы создать необходимые условия для этого диалога",* — сказал он.

Путин также призвал украинские власти *"немедленно прекратить карательную операцию на юго-востоке страны".*

*"Обращаемся с настоятельным требованием к киевским властям незамедлительно прекратить все военные и карательные операции на юго-востоке Украины",* — сказал Путин на пресс-конференции по итогам встречи со своим швейцарским коллегой, действующим председателем ОБСЕ Дидье Буркхальтером.

По словам президента РФ, *"такой способ разрешения внутриполитического конфликта не является надежным путем решения всех внутриполитических споров, наоборот, только усугубляет раскол".*

